ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 20 20 мая 1993 г. Выдаецца з 1955 г.
(2318)

СЦВЕРДЗІЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ КУЛЬТУРУ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ

## АД ЗЯМЛІ, АД ЧОРНАЙ СКІБЫ

На пачатку чэрвеня мае адбыцца навукова-практычная канферэнцыя "Фальклор як сродак выхавання нацыянальнай свядомасці". Напярэдадні гэтай падзеі я сустрэлася з прэзідэнтам Асацыяцыі беларускіх фалькларыстаў Васілём ЛІЦВІНКАМ. Чалавек ён разумны і дасціпны, вучань Рыгора Шырмы і Генадзя Цітовіча, такі ж, як яны, апантаны збіральнік і прапагандыст народнай беларускай песні, фальклору.

Пачалася ж наша размова на даволі сумнай ноце. Васіль Дзмітрыевіч зазначыў, што нягледзячы на быццам бы абнадзейваючыя адзнакі адраджэння, ідзе ў нашай Беларусі нейкае супрацьстаянне. Сапраўды, распадаецца Акадэмія навук. Фактычна ўжо знішчаны Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, дзе "засталося два з паловай кандыдаты навук". Пад "рознымі соусамі і рознымі метадамі", па словах В. Ліцвінкі, ідзе знішчэнне і фальклорнай лабараторыі, дзе ён працуе. Ён сказаў, што ўдзельнічаў летась у Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Маладзечне, тэмай якога была нацыянальная самасвядомасць.

-- Аднак менавіта пра яе я там нічога і не пачуў, -- сказаў Васіль Дзмітрыевіч.

-- А ўім бралі ўдзел і замежныя беларусы...

-- Так, прысутнічалі. І той жа Янка Запруднік вёў размову пра беларускую шляхту, пра верхнія слаі культуры. А вядома, што без фундаменту - ад плуга, ад зямлі, ад баразны, ад вёскі беларускай ніякай гаворкі пра нацыянальнае і самабытнае быць не можа. На наша вялікае шчасце, яно ёсць, захавалася, і я сустракаю яго ў экспедыцыях на кожным кроку. І на ўзроўні шчырага, добрага беларускага папулізму трэба сцвердзіць і паказаць свету нашу нацыянальную самабытнасць. Я кірую тэмай "Рэгіянальная спецыфіка беларускага фальклору" і кожны раз адкрываю штосьці новае, бо ў кожным рэгіёне ёсць адметнасць. Вось, калі ласка, Камаедзіца.

-- Мы нават і не чулі пра такое свята...

-- Не ведаем і не святкуем, а яно ідзе ад нашага першабытнага прашчура. Усе народы вераць, што яны пайшлі ад нейкай жывёлы. Каго б вы зрабілі сваім татэмам? Па ўсім беларускім фальклоры праходзіць вельмі прыгожы, на мой погляд, татэм, як і ўсё прыгожае ў нашым народзе. "Мядзведзюхна, мой бацюхна", -- спяваецца ў народнай песні. Камаедзіца -- свята ўрачыстай сустрэчы мядзведзя пасля зімовай спячкі, нашага прабацькі, татэмнага родзіча. Яно адзначаецца за дзень да Звеставання. На свята варылі камы -- гарохавыя, бульбяныя, фасолевыя, елі, варочаліся з боку на бок, нібы дапамагаючы мядзведзю ўстаць. Фальклырысты, нібы чорную скібу зямлі, павінны ўзнімаць нізавую культуру, як гэта робіць, напрыклад, Купрыяненка ў сваім ансамблі "Свята".

-- А як вы ставіцеся да фальклорнага ансамбля Берберава?

-- Яны на вельмі правільным шляху, падымаюць, што называецца, ад зямлі, ад той самай чорнай скібы. Адметнасць іх яшчэ і ў тым, што яны выкарыстоўваюць унікальныя народныя музычныя інструменты.

(Заканчэнне на 6-й стар.).



**Настаўнік па прафесіі і цудоўны майстар разьбы па дрэву і чаканцы, Ю.АДАМОВІЧ прымаў удзел у выставе народных майстроў і прэзентацыі свайго творчага саюза, якая адбылася ў канцы красавіка ў мінскім Доме ветэрана. (Фотарэпартаж з выставы змешчаны на 7-й стар.).**

*ПРА БАГАЦЦЕ НАШЫХ НЕТРАЎ І ІХ РАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ*

## А ЗОЛАТА Ў НАС УСЁ Ж ЁСЦЬ

Час ад часу ў перыядычных выданнях з'яўляюцца публікацыі аб новых знаходках у нетрах Беларусі то вялікіх радовішчаў бурага вугалю, то жалезнай руды. Была нават сенсацыйная інфармацыя аб тым, што мы нагамі топчам золата.

Для мяне найвялікшым аўтарытэтам у галіне геалогіі з'яўляецца акадэмік Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі. Да яго і звярнулася я, каб атрымаць кампетэнтныя адказы на шматлікія пытанні.

Падчас тэлефоннай размовы Радзім Гаўрылавіч абураўся пагоняй за сенсацыяй некаторых журналістаў, якія публікуюць неправераныя і недакладныя даныя, бо золата ўвогуле нагамі таптаць немагчыма, таму што знаходзіцца яно ў сапрапелях. Сапрапелі ж, як вядома, размешчаны на дне азёр.

Аднак золата ў нас усё ж ёсць, хоць вельмі глыбока, метрах у 100 пад зямлёй.

Пры сустрэчы з акадэмікам Радзімам Гарэцкім я адчувала сваю поўную недасведчанасць. Гэта і не дзіўна. Доўга-доўга нас пераконвалі, што Беларусь -- вельмі бедная на карысныя выкапні краіна. Ну хіба мел, пясок, вапна, торф. Радзім Гаўрылавіч расказаў, што прыблізна гадоў 15 назад у Мінску праходзіла выязная сесія Акадэміі навук СССР, падчас якой вядомы вучоны, геолаг, акадэмік, сакратар АН СССР Б. Макалоў адзначыў, што Беларусь да самага апошняга часу заставалася "белай плямай" на карце Савецкага Саюза. Яна была зусім не вывучана. Потым, калі правялі вялікія геалагічныя, геаграфічныя працы, рэспубліка стала выдатнейшым адкрыццём як з боку геалагічнай будовы (пасля вывучэння геалагічнай будовы, як вядома, ідуць карысныя выкапні), так і з боку новых мінеральных рэсурсаў. Без мінеральнай сыравіны немагчыма гаспадарчая дзейнасць чалавека, само існаванне чалавецтва. Увесь час ідзе барацьба за мінеральныя рэсурсы. Гандаль мінеральнай сыравінай складае больш за чвэрць усяго міжнароднага таваразвароту. Сучасная структура цэн на сыравіну, прадукты яе перапрацоўкі і гатовыя вырабы прыносіць найбольшыя выгады тым краінам, якія купляюць мінеральную сыравіну.

Ранейшае ўяўленне аб беднасці нетраў Беларусі не адпавядае сапраўднасці. Самыя багатыя карысныя выкапні -- гэта, вядома, калійныя солі. Прагнозныя запасы іх 80 мільярдаў тон, а здабываецца калійная соль ужо больш 25 гадоў. Кожны год продаж калійных солей за межы Беларусі дае рэспубліцы ні многа ні мала -- 58 мільёнаў долараў. Гэта самая прыбытковая галіна.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПАЗІЦЫЯ С.ШУШКЕВІЧА*

### МІФ РУХНУЎ

**За першы квартал 1993 года эканамічны спад у Беларусі склаў 16 працэнтаў. Міф аб эканамічнай стабільнасці рэспублікі рухнуў, бо мы апусціліся да ўзроўню астатніх краін СНД. Такая ацэнка прагучала з вуснаў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С.Шушкевіча на сустрэчы яго з кіраўнікамі 27 гарадоў краіны, якая адбылася нядаўна ў Мінгарсавеце.**

**С.Шушкевіч лічыць, што рыначныя рэформы фактычна не праводзяцца, бо многія з кіраўнікоў проста не здольны ўпісацца ў рыначныя структуры, ім выгадна захаваць усё, як было.**

**Не выратуе нас і далучэнне да ваеннага блока СНД. Такое спадзяванне С.Шушкевіч назваў фарсам.**

*ПАВЕДАМЛЕННЕ ДЗЯРЖКАМСТАТА*

### КОЛЬКІ НАС?

**Колькасць насельніцтва рэспублікі на пачатак 1993 года склала 10 346 тысяч чалавек і павялічылася за год на 65 тысяч, або на 0,6 працэнта.**

**З агульнай колькасці насельніцтва 7 026 тысяч чалавек (68 працэнтаў) пражывае ў гарадах і гарадскіх паселішчах і 3 320 тысяч чалавек (32 працэнты) -- у сельскай мясцовасці.**

**У 12 гарадах колькасць насельніцтва 100 і больш тысяч жыхароў: у Мінску -- 1 661, Гомелі -- 506, Віцебску -- 368, Магілёве -- 366, Гродне -- 296, Брэсце -- 289, Бабруйску -- 226, Баранавічах -- 171, Барысаве -- 154, Пінску -- 128, Оршы -- 126 і Мазыры -- 105. Блізкія да дасягнення гэтай колькасці гарады Ліда -- 99,5, Салігорск -- 98,8 і Наваполацк -- 98,2 тысячы.**

**Па стану на 1 студзеня ў рэспубліцы налічвалася 40 гарадоў з колькасцю насельніцтва 20 і больш тысяч чалавек і 83 гарады з колькасцю больш за 10 тысяч.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

### НУНЦЫЙ ВАТЫКАНА Ў МІНСКУ

**Папскі нунцый, архіепіскап Габрыэль Мантальва ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславу Шушкевічу.**

**Каменціруючы гэту падзею, Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што беларуская дзяржава з вялікай радасцю прыняла пасланніка папы Іаана Паўла II.**

**-- Мы перажылі ўжо тыя часы, калі веруючыя не маглі свабодна вызнаваць рэлігію. Больш таго, я думаю, што католікі ў Беларусі падвяргаліся ганенням нават больш, чым у іншых цывілізаваных краінах. Але адносіны веруючых і дзяржавы ў нас узаконены, і гэты закон паважае ўсіх грамадзян у рэспубліцы ў аднолькавай меры і незалежна ад іх веравызнання. Мы падтрымліваем як каталіцкую царкву, так і альтэрнатыўныя веравызнанні і лічым разумным узаемадзеянне ўсіх людзей, якія жывуць на Беларусі.**

*РАСПРАВА*

### М.СТАТКЕВІЧ ЗВОЛЬНЕНЫ Ў ЗАПАС

**Загадам N 0499 міністра абароны Беларусі Паўла Казлоўскага ў запас звольнены старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) Мікалай Статкевіч.**

**Падпалкоўнік М.Статкевіч -- кандыдат тэхнічных навук, старшы выкладчык Мінскага вышэйшага ваенна-інжынернага вучылішча. Толькі што завяршыў працу над доктарскай дысертацыяй па пытаннях вайсковай тэхнікі і ўзбраенняў. Мае каля 20 гадоў каляндарнай выслугі. У якасці старшыні БЗВ паставіў свой подпіс пад заявай дэмакратычных сіл супраць далучэння Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы краін СНД, выступіўшы тым самым супраць пазіцыі Міністэрства абароны рэспублікі.**

**Звольнены з фармулёўкай "за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра", якая вельмі рэдка ўжываецца пры звальненні ваеннаслужачых у запас. Напрыклад, нават злоўленыя на злоўжываннях афіцэры звальняліся ў запас з больш мяккай фармулёўкай -- па неадпаведнасці службоваму становішчу. Прымяненне ў дачыненні да М.Статкевіча артыкула 61 пазбаўляе яго шмат якіх правоў -- на прыватызацыю жылля, атрымання ў час вайсковай службы, карыстання санаторыямі і нават на выхадную грашовую дапамогу.**

*ДОЎГАТЭРМІНОВЫ КАНТРАКТ*

**Выгадны заказ атрымаў калектыў Рэчыцкага суднабудаўнічага і суднарамонтнага завода. Тут заключаны доўгатэрміновы кантракт з фірмай "Дамен" аб будаўніцтве барж марскога класа для Галандыі. Дзве з іх ужо адпраўлены заказчыку, а яшчэ чатыры будуць спушчаны на ваду ў гэтым годзе.**

**Завод быў здадзены ў эксплуатацыю ў 1988 годзе і арыентаваўся, у асноўным, на рамонт сухагрузаў тыпу "рака-мора" для ўкраінскага порта Чарнігаў. Але ў апошнія гады, калі былі парушаны ўсе эканамічныя сувязі, калектыў прадпрыемства страціў галоўных спажыўцоў сваёй прадукцыі. Каб не скарачаць вытворчасць, захаваць рабочыя месцы, адміністрацыя і пачала шукаць заказчыкаў за межамі былога Саюза.**

**Вытворчыя магутнасці беларускага прадпрыемства дазваляюць будаваць і большую колькасць першакласных суднаў.**




**НА ЗДЫМКУ: апошнюю праверку перад спускам на ваду праходзіць яшчэ адна баржа для Галандыі.**

*КАНТРАБАНДА*



**Такую колькасць абутку прадпрыемства "Белвест" спрабаваў вывезці за межы Беларусі на поездзе Полацк-Масква жыхар Ніжневартаўска. Але дзякуючы добрасумленным адносінам да сваёй службы старшага інспектара КПП на станцыі Віцебск Анатоля ЛЕШЧАНКІ (на здымку) 51 пара мужчынскіх чаравікаў паступіць у магазіны горада.**

*ЗДАРЭННІ*

### ЯК У ІТАЛЬЯНСКІМ ФІЛЬМЕ

**У аўторак, 11 мая, каля дзесяці гадзін раніцы, ля свайго офіса на праспекце Машэрава ў Мінску быў смяротна ранены ў грудзі і праз тры гадзіны пасля аперацыі памёр старшыня праўлення канцэрна "Камінвест" Аляксандр Ліснічук. Стралялі ў яго з суседняга дома, у якім ідуць рамонтныя работы. Адбылося гэта ў момант, калі А.Ліснічук збіраўся сесці ў машыну. Аператыўная група выявіла зброю злачынства -- нямецкі карабін з аптычным прыцэлам і глушыцелем.**

*ПОМНІКІ*

### ЭКСПАЗІЦЫЯ ПРАЕКТАЎ

**У рэспубліканскай выставачнай галерэі (у Палацы мастацтва ў Мінску) адкрылася экспазіцыя праектаў помнікаў выдатным дзеячам Беларусі: Кастусю Каліноўскаму, Максіму Багдановічу, Францішку Багушэвічу, Сімяону Полацкаму, Васілю Вашчылу, а таксама праект мемарыяльнага комплексу ахвярам рэпрэсій у лясным масіве Курапаты. Іх прадставілі творчыя калектывы і асобныя майстры, якія найбольш поўна і арыгінальна ўлічылі патрабаванні Палажэння аб конкурсе, аб'яўленым Саветам Міністраў рэспублікі ў 1990 годзе. Вынікі чарговага заказнога туру падвядзе кампетэнтнае журы, але меркаванне наведвальнікаў выставы таксама адыграе сваю ролю.**

*"У нас ёсць усе падставы зняць з нашага чалавека, народа комплекс перыферыйнасці, а гэта значыць, і нейкай непаўнацэннасці, а таксама комплекс боязі дыктату, з якога б боку ён ні адчуваўся.*

*Успамінаю, як сустракалі адну з першых груп беларускіх дзяцей у Амерыцы, куды яны прыехалі на адпачынак. Амерыканцы думалі, што з аўтобусаў зараз выйдуць ледзь не медзведзяняты. Прайшоў дзень, два -- і гаспадары зразумелі, што беларуская школьнікі нічым не горшыя за амерыканскіх, а дзе-нідзе яшчэ і могуць даць ім фору. Вось гэта разуменне, што мы не горшыя, чым іншыя, што мы можам і ўмеем жыць дастойна, і павінна ахапіць усе слаі нашага грамадства".*

*Міхаіл ДЗЯМЧУК, намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі.*

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЯШЧЭ 177 фермерскіх гаспадарак маем за некалькі месяцаў гэтага года. Агульная іх лічба ў Беларусі -- 2 444. Сярэдняя плошча фермерскіх надзелаў ад 10,2 гектара на Брэстчыне да 25,9 -- на Магілёўшчыне. Ураджайнасць зерневых і бульбы ў прыватных гаспадарках пакуль ніжэйшая, чым у калгасах.

МАЛАДЫЯ канадскія эканамісты чытаюць на працягу месяца лекцыі па маркетынгу і менеджменту для студэнтаў Мінскага інстытута сучасных ведаў. Іх намер -- дапамагчы стварыць беларускія кадры, здольныя ўзняць нашу эканоміку.

БЕЛАРУСКАЯ ЕВАНГЕЛЬСКАЯ царква -- яшчэ адна рэлігійная грамада, што дапоўніла мазаіку канфесійнага жыцця рэспублікі. Пастар Эрнст Сабіла заявіў, што ўсе набажэнствы ў ёй будуць весціся на беларускай мове. Ужо рыхтуецца да выдання царкоўная літаратура -- спеўнікі, Евангелле і інш. -- на роднай мове.

АДМІНІСТРАЦЫЯ аднаго з самых буйных прадпрыемстваў сталіцы -- завода імя Арджанікідзе на месяц адправіла ў прымусовы водпуск значную частку працоўнага калектыву. У канструктарскім бюро з 300 чалавек засталіся "пры справе" толькі 60. Прадукцыя прадпрыемства не мае попыту.

НА 45 працэнтаў павялічылася за апошнія 10 год колькасць людзей, якія пакутуюць ад анкалагічных захворванняў. Асабліва расце лічба хворых на рак лёгкіх сярод мужчын, якія кураць. Кожны трэці курэц на Беларусі ў сталым узросце пакутуе ад злаякасных анкалагічных захворванняў. Найвышэйшы працэнт анкалагічных хворых дае Віцебская вобласць.

ТОЛЬКІ сёлета на Магілёўшчыне, у зоне павышанай радыяцыі, згарэла 130 жылых дамоў, гаспадарчыя пабудовы. Малакалькасныя і прымітыўна аснашчаныя пажарныя часці ў раённых гарадах бяссільныя ў барацьбе са стыхіяй. А ў час пажараў радыяцыйны ўзровень павышаецца ў 10--12 разоў.

НА 11,2 працэнта павялічылася за чатыры месяцы гэтага года колькасць абрабаваных кватэр і дамоў. У студзені-красавіку міліцыяй зарэгістравана 4 503 кватэрныя крадзяжы ў грамадзян Беларусі. Пакуль што раскрыты толькі 1 363 злачынствы. Часцей за ўсё "бяруць" у бізнесменаў і гандляроў.

МАЛАДАЯ жанчына пасля чатырох год пакут памерла нядаўна ад СНІДу (AIDS). Гэта ўжо другая ахвяра страшэннай хваробы за 1993 год. Усяго ж з 1991 года ў Беларусі ад СНІДу памерла 5 чалавек. Усе яны былі яшчэ ў маладым веку.

НА ТЭРЫТОРЫІ Беларусі зарэгістраваны і дзейнічаюць 11 нацыянальна-акультурных аб'яднанняў. Самае буйное з іх -- рускае, яно налічвае 1 мільён 349 тысяч чалавек. На другім месцы -- польскае (418 тысяч), а за ім -- украінскае (271 тысяча).

**Калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі ПАЛЯКОВАЙ Людміле Сяргееўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам -- смерцю МАЦІ.**

# А ЗОЛАТА Ў НАС УСЁ Ж ЁСЦЬ

[Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.].

Варта адзначыць, што якасць нашых калійных солей на ўзроўні сусветных стандартаў. Больш таго, сёлета Мексіканскі нацыянальны інстытут маркетынгу прысудзіў чарговую брыльянтавую зорку за якасць беларускім вытворцам ВА "Беларускалій". Пасля праверкі якасці калійных угнаенняў, якія выпускаюцца ў свеце, прафесійныя эксперты з Мексікі прызналі перавагу за "Беларускаліем".

Практычна невычарпальныя запасы маем каменнай солі. Гэта звычайная кухонная соль. "Кухоннай солі ў нас столькі, што мы маглі б увесь свет накарміць", -- адзначыў Р. Гарэцкі. Аднак мы завозім "сіль" з Украіны. І плацім немалыя грошы. Праўда, зараз раз вядзецца забудова і над самім радовішчам. Мы маем ужо горкі вопыт Салігорска, які пабудаваны якраз на тым месцы, дзе самыя вялікія запасы калійных солей. Пад Салігорскам мы не можам іх здабываць, бо там будуць асяданні грунту і правалы. "Гэта адбываецца таму, -- зазначыў Радзім Гаўрылавіч, -- што навуку ў нас не заўсёды слухаюць". Канструктыўная геаграфія павінна займацца размяшчэннем гэтых вытворчых сіл, бо прырода не вытрымае націску тэхнагенезу. Прырода не бясконцая ў сваіх радовішчах. Даўно пара стварыць у Беларусі інстытут геаграфіі пры Акадэміі навук ці пры універсітэце, дзе спецыялісты-навукоўцы распрацоўвалі б размяшчэнне магутных кар'ераў, гаспадарак і вялікіх забудоў.

Шырокавядомыя па ўсёй Беларусі кар'еры, дзе вядзецца здабыча розных будаўнічых і іншых матэрыялаў: даламітаў, мелу, цэментнай сыравіны, тугаплаўкіх і вогнетрывалых глін, пясчана-жвіровай сумесі і пяскоў для вырабу шкла, гранітаў для здабычы шчэбеню, сапрапеляў, кааліну і г.д.

Зараз разведаны радовішчы жалезных руд, прагнозныя запасы якіх звыш 1,5 мільярда тон. Разам з жалезам на гэтых радовішчах ёсць тытан, ванадзій, кобальт, фосфар, германій, серабро, золата. У нас золата ёсць у так званых пародах фундаменту, але гэта досыць глыбока, як я ўжо адзначала, на глыбіні 100 метраў. І ёсць так званае рассыпное золата. На жаль, гэта зусім новая для нас справа, вывучэнне якой пачалося нядаўна, але даследаванні, якія праведзены, даюць значны аптымізм на тое, што мы зможам здабываць гэта рассыпное золата.

Вельмі перспектыўнае радовішча рэдкіх і рэдказямельных элементаў. Без іх немагчыма развіццё авія- і ракетабудавання, радыёэлектронікі, ядзернай і рэнтгенаўскай тэхнікі. Адкрыта радовішча рэдкага мінералу -- даўсаніту, з якога атрымліваюць соду і алюміній.

А яшчэ ў Беларусі ёсць вялікія запасы мінеральных расолаў. Поліметалічны водны канцэнтрат названы беларусітам. Гэта так званая вадкая руда, у якой вельмі вялікая мінералізацыя вады. Там ёсць амаль усе элементы табліцы Мендзялеева, і ў першую чаргу ёд, бром, стронцый, калій, літый і многія іншыя рэдкія і рассеяныя элементы. Гэты расол вельмі перспектыўны для выкарыстання ў раслінаводстве, жывёлагадоўлі, прамысловасці, медыцыне. Уносячы яго невялікімі дозамі на палі, павышаем ураджайнасць. І яшчэ гэта лякарства накшталт вядомага "бішафіту". Гэта вельмі цікавыя карысныя выкапні, запасы якіх у нас велізарныя. Беларусь багатая на сапрапелі, яны з'яўляюцца выдатным угнаеннем, запасы якога ўжо зараз дазваляюць экспартаваць сапрапелі і атрымліваць прыбытак.

Знойдзены ў падземных сховішчах алмазы і вельмі прыгожы і якасны бурштын.

Аднак новыя палітычныя і эканамічныя ўмовы незалежнасці Беларусі патрабуюць і новага, больш гаспадарлівага падыходу да мінеральных рэсурсаў, слушна адзначыў акадэмік Р. Гарэцкі. На яго думку, неабходна распрацоўка спецыяльнай дзяржаўнай праграмы і глыбокая эканамічная ацэнка мінеральна-сыравіннай базы. Для пошукаў новых карысных выкапняў, разведкі і распрацоўкі ўжо вядомых радовішчаў, эканамічнай ацэнкі мінеральных рэсурсаў і іх скарыстання, а таксама для вядзення агульнай мінеральна-сыравіннай палітыкі неабходна стварыць Камітэт альбо Міністэрства геалогіі і выкарыстання мінеральных рэсурсаў. Такое ведамства павінна падначаліць усе справы, якія тычацца мінеральнай сыравіны. Раней яно рабіла толькі пошукі і разведку радовішчаў карысных выкапняў, зараз жа павінна адказваць і за распрацоўку. Да гэтага часу кожнае ведамства здабывала свае карысныя выкапні. А радовішчы звычайна маюць некалькі карысных мінералаў. Пэўнае ведамства здабывае, як правіла, толькі адзін з іх, а астатнія ідуць у адвал. Новае міністэрства мусіць адказваць не за адно, а за ўсе карысныя выкапні, таму будзе зацікаўлена весці сапраўды комплекснае выкарыстанне мінеральнай сыравіны.

Міністэрства геалогіі і выкарыстання мінеральных рэсурсаў павінна праводзіць дзяржаўную палітыку па рацыянальнаму выкарыстанню ўсіх неабходных Беларусі мінеральных рэсурсаў. Таму яно будзе даваць рэкамендацыі на заказы ў іншых краінах менавіта на тую мінеральную сыравіну, якой няма ў Беларусі, але якая ёй патрэбна. Зараз вельмі важна наладзіць гандаль сыравінай, выгадны для краіны. А гандляваць нам, улічыўшы толькі названыя вышэй карысныя выкапні, ёсць чым.

Акадэмік Р. Гарэцкі лічыць, што разнастайную дзейнасць геалагічнага і мінеральна-рэсурснага накірунку павінны весці шматлікія самастойныя прадпрыемствы: геалагічныя, геадэзічныя, геафізічныя, буравыя і картаграфічныя, а таксама вытворчыя аб'яднанні "Беларускалій" і "Беларуснафта" і інш. Адначасова яны будуць весці і прадпрымальніцкую дзейнасць. Важна, каб за здабычу любога карыснага выкапня прадпрыемства плаціла дзяржаве за кожную вагавую ці аб'ёмную адзінку. Важна і тое, што фінансаванне асноўных геалагічных даследаванняў, а таксама і ўтрыманне міністэрства павінна ісці за кошт сродкаў ад адлічэння ад здабычы і выкарыстання карысных выкапняў.

Вельмі турбуе віцэ-прэзідэнта АН Беларусі Р. Гарэцкага пытанне падрыхтоўкі навуковых кадраў. У Беларусі зараз ёсць два навукова-даследчыя інстытуты геалагічнага напрамку: Інстытут геалогіі, геахіміі, геафізікі АН Беларусі і Навукова-даследчы геолагаразведачны інстытут. Апошні належыць вытворчасці. Гэта фундаментальны інстытут прыкладнога характару.

Зараз геолагаў рыхтуюць толькі ў Гомелі па спецыяльнасці гідрагеалогія і інжынерная геалогія. Раней быў у Белдзяржуніверсітэце ў Мінску геалагічны факультэт, але яго закрылі. З гэтай прычыны трэба гадоў пяць патраціць, каб падрыхтаваць географаў і геолагаў шырокага профілю. Ідзе страшэннае старэнне кадраў, таму неабходна адкрыць хаця б групу геолагаў на базе геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Ва ўсіх еўрапейскіх краінах ёсць геалагічныя таварыствы, якія рэгулярна праводзяць сумесныя сесіі па геалагічных праблемах Еўропы. Неабходна стварыць геалагічнае таварыства і ў Беларусі. Для вывучэння геалагічнай будовы трэба аб'яднаць намаганні геолагаў, вучоных, спецыялістаў многіх краін.

"Зараз, калі Беларусь абвясціла сябе суверэннай краінай, марудна, але ўсё ж крочыць да сваёй незалежнасці, -- падкрэсліў на завяршэнне нашай размовы акадэмік Р. Гарэцкі, -- вельмі важна прынцыпова па-новаму паглядзець на багацце яе нетраў і рацыянальнае выкарыстанне мінеральных рэсурсаў".

**Галіна АГАЛАКАВА.**

З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ







**Не, ніколі з мяне не атрымаўся б гандляр камерцыйнага кіёска. Цэлы дзень сядзець у душнай будцы і глядзець, як дзеці расплюшчваюць насы аб шкло і глытаюць слінкі, не адрываючы вачэй ад шакаладак, батончыкаў і жвачак... Я, напэўна, праз дзесяць хвілін такога выпрабавання раздала б ім увесь свой тавар і адправілася б дамоў. Але ж не ва ўсіх такія слабыя нервы, бо пра тое, каб нехта бясплатна карміў дзяцей шакаладам, я не чула, а кіёскі не толькі не зачыняюцца, а адкрываюцца новыя і новыя, прычым, у розных і часам, здаецца, зусім не прыдатных для гэтага месцах. Вось як і той, што не так даўно пачаў працаваць у мінскай дзіцячай паліклініцы N 18. Увогуле тыя, хто яго тут адчыніў, усё вельмі добра разлічылі: хворае дзіця бацькі шкадуюць яшчэ больш, значыць і шакаладку ці цацку купяць хутчэй. Да таго ж тут і спецыяльнае дзіцячае харчаванне можна набыць, але ж па цэнах, якія далёка не кожнаму па кішэні. І хаця добра разумееш, што рынак прымушае да многага прызвычайвацца і многаму скарацца, чамусьці застаецца вельмі непрыемнае ўражанне ад наведвання гэтага "міні-магазіна" ў паліклініцы. Мабыць, таму, што за некалькі хвілін, пакуль я там стаяла, давялося пачуць, як пяцёра бацькоў ціхім голасам цярпліва і трохі прыніжана тлумачылі дзецям, што ў іх няма грошай на ляльку за пяць тысяч рублёў. А можа таму, што ўсяму сваё месца, і не трэба змешваць высакародную справу лячэння маленькіх дзяцей з камерцыяй і гандлем, а можа, проста таму, што гэты кіёск -- яшчэ адно, хай і маленькае, сведчанне таго, як новыя парадкі, якія мы называем рынкам, наступаюць на нас, наша жыццё і жыццё нашых дзяцей і выцясняюць з яго добрае і чалавечнае, замяняючы гэта прагматычным разлікам і падлікам. А шкада...**

**В. АНАТОЛЬЕВА.**

КАНФЛІКТЫ

## АКУПАЦЫЯ КАСЦЁЛА ЗАКОНЧЫЛАСЯ

Нарэшце завяршылася процістаянне паміж веруючымі і Міністэрствам культуры Беларусі вакол пытання аб праве на ўладанне касцёлам Святой Тройцы ў Мінску.

Пасля таго, як 5 мая было падпісана пагадненне паміж кіраўніцтвам Белдзяржфілармоніі і кіраўніцтвам рымска-каталіцкай парафіі, католікі прыпынілі акцыю па захопу храма, што працягвалася амаль чатыры тыдні.

Згодна з дасягнутай дамоўленасцю, Беларуская дзяржаўная філармонія будзе прадастаўляць будынак касцёла не толькі для ранішніх службаў, як было раней. Рымска-каталіцкая парафія будзе станавіцца гаспадыняй храма ад 7 гадзін 15 мінут да 10 гадзін штодзённа і дадаткова ад 16 да 22 гадзін у кожную сераду, ад 10 да 14 -- кожную суботу, цэлы дзень кожную нядзелю, цэлыя дні ў час дзесяці каляндарных гадавых святаў і дня Святога Роха як заступніка касцёла, а таксама па 8 каляндарных дзён запар на Вялікдзень і Каляды.

Акрамя таго, па звестках БелаПАН, у карыстанне парафіі перададзена правая бакавая капліца. За парафіяй прызнаны правы на змену некананічнага інтэр'ера ў кананічным рэчышчы, на карыстанне ў час богаслужэнняў размешчаным у храме арганам.

Бакі таксама дамовіліся аб сумесных мерах па вырашэнню пытання аб будаўніцтве новай канцэртнай камернай залы для філармоніі і парафіяльнага дома для рымска-каталіцкай парафіі.

*УЗІРАЮЧЫСЯ Ў ДАЛЯЧЫНЬ СТАГОДДЗЯЎ*

# ШТО ПРЫНЁС ГОМЕЛЮ 1772 ГОД?

Гомельскія старасты, як і ўлады Рэчы Паспалітай, прымалі рускіх раскольнікаў зусім не таму, што быццам бы адрозніваліся верацярпімасцю. Факты, якія маюць дачыненне да гомельскіх наваколляў, якраз гавораць аб іншым. Так, пасля пажару, які 2 верасня 1737 года знішчыў амаль увесь Гомель, на працягу 20 гадоў гомельскія правіцелі не дазвалялі праваслаўным (большасць насельніцтва!) пабудаваць новыя цэрквы. У адзін дзень 1737 года былі адабраны і пераўтвораны ва уніяцкія праваслаўныя цэрквы ў вёсках Шарсцін, Радава (Радуга?), Варфаламееўка (Барталамееўка) і Навасёлкі (у наш час – населеныя пункты Веткаўскага раёна). У 1738 годзе была закрыта праваслаўная царква ў вёсцы Хальч, а ў Прудку не дазволілі ўзводзіць новую царкву замест той, што згарэла.

У час прыходу старавераў з-за рускай граніцы ўлады Рэчы Паспалітай былі настолькі слабымі, што ўжо не маглі кантраляваць сітуацыю. Што ж датычыць польскіх магнатаў і старастаў, то яны былі не супраць старавераў, таму што супрацоўніцтва з апошнімі прыносіла ім значную выгаду: засяляліся пустэльныя землі, за арэнду якіх стараверы плаціць не скупіліся.

Новыя, рускія, гаспадары Гомеля (Румянцавы) таксама наладзілі са старaверамі вельмі добрыя адносіны. Графа Мікалая Румянцава стараверы сустракалі звычайна з царскай пашанай, выходзілі насустрач з крыжамі, іконамі і запаленымі свечкамі пад звон званоў і спяванне духоўных песень.

Аб колькасці рускіх раскольнікаў у 1773--1775 гадах у наваколлі Гомеля можна меркаваць па наступнаму факту: у той час толькі ў Спасавай Слабадзе пражывала 557 старавераў) асобнае прыгараднае пасяленне), насельніцтва ж Гомеля складала, нагомнім, 1 692 чалавекі (уласна гамельчукі). Усяго ж у Гомельскім старастве, якое ўказам Кацярыны II ад 10 ліпеня 1775 года даравалася палкаводцу П.А.Румянцаву, пражывала 5 тысяч душ.

Згодна з Л.Вінаградавым, калі Румянцаў-Задунайскі прыехаў ў Гомель (здарылася гэта не раней канца 1775 года), то "ўбачыў, што гэта не вёска, а добра ўмацаваны замак і даволі багаты гандлёвы гарадок з польскім, рускім і яўрэйскім насельніцтвам". "Рускае" насельніцтва -- гэта 910 чалавек праваслаўных мяшчан і былых жаўнераў (пераважна беларусы), а таксама 62 чалавекі з сем'яў служыцеляў праваслаўных храмаў, "палякі" -- гэта католікі шляхецкага саслоўя (67 чалавек; сярод іх былі сапраўдныя палякі, напрыклад, рымска-каталіцкія святары; акрамя таго, вядома, што каралі Рэчы Паспалітай даравалі зямельныя ўгоддзі вакол Гомеля розным прышлым шляхціцам каталіцкага і уніяцкага веравызнання "въ кормленье"). А вось калі з'явіліся ў Гомелі яўрэі?

У 1775 годзе іх было ў горадзе, як мы адзначалі, 593 чалавекі. А ў 1911 годзе -- ужо 30 тысяч 708 чалавек (агульная колькасць насельніцтва -- 79 тысяч 107 чалавек). Значная колькасць яўрэяў у Гомелі, як, дарэчы, і ў іншых беларускіх гарадах і мястэчках, тлумачыцца нацыянальнай палітыкай царскага ўрада. з канца XVIII стагоддзя для яўрэяў была ўстаноўлена мяжа аселасці. Месца пражывання абмяжоўвалася 15 заходнімі губернямі, у тым ліку беларускімі. Яўрэям забаранялася набываць зямлю ў прыватную ўласнасць, сяліцца за межамі гарадоў. У гарадах Беларусі яўрэі складалі асноўную масу гандлёва-рамеснага насельніцтва. Яўрэі былі ў Гомелі і да 1772 года. Вядома, што вясной 1649 года, напярэдадні Вялікадня, казацкі палкоўнік М.Нябаба з 2,5 тысячы казакоў "пры садзейнічанні саміх гамлян" (Л..Вінаградаў) амаль з ходу авалодаў Гомелем і ўчыніў у ім бязлітасную разню -- перабіў усіх католікаў, уніятаў і каля 1 500 яўрэяў. За год да гэтага, летам 1648 года, казакі Галавацкага вырэзалі ў Гомелі каля 600 шляхціцаў (гэтыя лічбы даюць магчымасць уявіць агульную колькасць насельніцтва Гомеля падчас падзей 1648--1654 гадоў). Дарэчы, шляхта таксама не была міласэрнай: у ліпені 1649 года войскі Рэчы Паспалітай адбілі ў казакоў Гомель і перабілі праваслаўнае насельніцтва. "Казацкая" вайна, а потым і руска-польская вайна 1654--1667 гадоў абумовілі змяншэнне насельніцтва Гомеля ў вельмі значнай ступені. Нават праз 100 з лішкам гадоў, напярэдадні ўваходжання ў склад Расіі, насельніцтва горада не дасягнула мяркуемай колькасці сярэдзіны XVII стагоддзя. Цікава параўнаць наступныя лічбы: агульная колькасць насельніцтва Гомеля ў 1773--1775 гадах складала 1 909 чалавек (усе, хто знаходзіўся ў той час у горадзе), а ў 1654 годзе, летам, адзін толькі гарнізон, які рыхтаваўся адбіваць атакі казацкага войска пад кіраўніцтвам І.Залатарэнкі, налічваў 2 тысячы чалавек.

Прынята лічыць, што пасля далучэння да Расіі ў гарады Беларусі прыйшла значная колькасць рускага насельніцтва. Міграцыя рускіх у ваколіцы Гомеля назіралася якраз да ўваходжання ў Расійскую імперыю. Пасля 1764 года перасяленне рускіх старавераў у Пасожжа замарудзілася. Аб значнай русіфікацыі Гомеля пасля 1772--1775 гадоў гаварыць не даводзіцца. І вось чаму.

22 сакавіка 1775 года было прынята новае "Устанаўленне для кіравання губернямі Усерасійскай імперыі", згодна з якім Гомель павінен быў стаць цэнтрам павета Магілёўскай губерні. Калі б гэта здарылася, то ў горад прыбылі б чыноўнікі новых павятовых службаў, жыццё стала б больш "сталічным" на рускі манер і г.д. Гэтага, аднак, не здарылася, бо па распараджэнню ўрада (а фактычна -- імператрыцы Кацярыны II) "присутственные места" з Гомеля, які з 1772 года з'яўляўся цэнтрам Рагачоўскай правінцыі, былі пераведзены ў мястэчка Беліца паблізу ракі Узы (цяпер -- вёска Старая Беліца за 20 кіламетраў на паўночны захад ад Гомеля). Адначасова ўрад пайшоў на яшчэ большую "ахвяру": было прынята рашэнне аб пачатку будаўніцтва новага павятовага цэнтра побач з Гомелем. Магілёўскаму губернатару Пасеку было даручана знайсці месца для новага горада. Пошукі расцягнуліся на два гады. У рэшце рэшт спыніліся на наваколлях старaверскіх Пахом'ева скіта і Шчакатоўскай дачы на левым беразе Сожа насупраць Гомеля: усё ж такі тут была ўжо не цаліна, а дастаткова абжытае за 17 гадоў (з 1760 года) месца. У 1777 годзе пачалося будаўніцтва Новай Беліцы, якая сёння з'яўляецца раёнам Гомеля з насельніцтвам больш за 65 тысяч чалавек.

У канцы ж XVIII стагоддзя ўсё рабілася для таго, каб стварыць умовы для раскошнага жыцця ў Гомелі славутага фельдмаршала Пятра Румянцава-Задунайскага. Горад ператварыўся ў прыватнаўласніцкае мястэчка, ціхае, цудоўнае і заможнае. Істотных "прыліваў" насельніцтва сюды не назіралася, жыццё тут нібы "закансервавалася", і толькі два гадавыя кірмашы, кожны з якіх цягнуўся два тыдні, ажыўлялі Гомель і выводзілі яго з дрымоты. "У час кірмашоў збор рознахарактарных народаў, іх кіпучая дзейнасць, абмен ідэй, думак, поглядаў, нарэшце, сродкі пазабаўляцца і з прыемнасцю правесці час прыпадабняюць Гомель губернскаму гораду". Трэці кірмаш -- летні -- быў уведзены ў другой палове 40-х гадоў XIX стагоддзя, два другія праводзіліся ў студзені і верасні.

Такім чынам, у "румянцаўскі перыяд" Гомель русіфікаваўся настолькі, наколькі гэта мела дачыненне да жыцця саміх Румянцавых. Астатняе насельніцтва па нацыянальных, сацыяльных і канфесіянальных прыкметах заставалася такім жа, якім было і да 1772 года. Дастаткова сказаць, што да сярэдзіны XIX стагоддзя прамысловасць у Гомелі амаль не развівалася: у пачатку XIX стагоддзя тут існавалі толькі шкляная мануфактура, дзве невялікія ткацкія фабрыкі, у 1840 годзе быў адкрыты свечачны завод Школьнікава, у 1832 пачаў працаваць цукровы завод. Сітуацыя істотна змянілася пасля пракладкі праз Гомель у 1850 годзе шашы Пецярбург -- Кіеў і першай у Расіі тэлеграфнай лініі Пецярбург - Севастопаль, не гаворачы ўжо пра Лібава-Роменскую чыгунку, якая прайшла праз Гомель у 1873 годзе, і Палескую чыгунку.

Самае галоўнае і істотнае, што прынёс 1772 год, заключалася вось у чым: Гомель больш не з'яўляўся прыгранічным населеным пунктам, якім ён фактычна лічыўся на працягу чатырох стагоддзяў, з 1355 года, калі ўвайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Пасля 1772 года ў Гомелі ўжо быў непатрэбны ўмацаваны замак з магутным земляным валам, драўлянымі шмат'яруснымі вежамі, сценамі-гароднямі з баявой галерэяй, уязнымі брамамі з пад'ёмнымі мастамі, перакінутымі цераз глыбокі роў. Нездарма граф Пётр Румянцаў адразу загадаў разабраць умацаваны дубовы замак і з 1777 года распачаў будаўніцтва новага палаца і тым самым паклаў пачатак стварэнню цудоўнага палацава-паркавага ансамбля. Гомель пасля 1772 года развіваецца менавіта як горад, а не крэпасць.

Пасля смерці фельдмаршала Румянцава-Задунайскага (8 снежня 1796 года) Гомель перайшоў у спадчыннае ўладанне яго старэйшага сына графа Мікалая Пятровіча Румянцава, "з уступленнем якога ў кіраванне для мястэчка адкрылася новая эра... Яго імя памятнае ў айчыннай гісторыі як дзеяча, які папрацаваў для дабрабыту прамысловасці, гандлю, мастацтваў і народнай адукацыі ў Расіі, але асабліва абавязаны яму родны Гомель, якому ён аддаў свае апошнія гады, сілы, энергію і маёмасць. Пра яго можна сказаць, што ён застаў Гомель саламяным, а пакінуў палову яго каменнай" (Л. Вінаградаў). На месцы невялікага мястэчка ў пачатку XIX стагоддзя вырас добра распланаваны і забудаваны ў стылі класіцызму сучасны горад. Будаўніцтва вялося з размахам, на пецярбургскі манер. Накшталт вядомага адміралцейскага трызубца вуліц была створана ў Гомелі, адзіным у Беларусі, прамянёвая сістэма асноўных магістралей -- вуліц Прабойнай (пасля 1861 года – Румянцаўская, у наш час – Савецкая) і Замкавай (праспект Леніна), арыентаваных на купал палаца. Гасцінны двор на галоўнай плошчы нагадваў пецярбургскі. У 1797 годзе ў Гомелі адкрылася гімназія. У 1809–1819 гадах па праекту архітэктара Джона Кларка пабудаваны велічны праваслаўны сабор у імя святых Пятра і Паўла. У час М. Румянцава ў Гомелі ўпершыню з'явілася аптэка і багадзельня, цераз Сож у Новую Беліцу быў перакінуты пастаянны мост на палях, галоўныя вуліцы горада вымасцілі дошкамі, а парадак і чысціня Гомеля прыводзілі ў захапленне ўсіх шматлікіх яго гасцей, у тым ліку замежных. Заснаваў славуты граф і параходства па Дняпру і Сожу, праводзіў і фінансаваў археалагічныя раскопкі ў гомельскіх наваколлях, клапаціўся пра выданне дакументаў па гісторыі Беларусі. На яго грошы ў 1824 годзе ў Маскве выйшла ў свет першая частка беларускіх архіваў старажытных грамат, сабраных І. Грыгаровічам. Толькі смерць перашкодзіла Мікалаю Румянцаву адкрыць у Гомелі вышэйшае дваранскае вучылішча (ліцэй) па ўзору Царскасельскага. Па словах Льва Вінаградава, у асобе Румянцава (пасля яго смерці 3 студзеня 1826 года) "Гомель аплакаў не толькі выдатнага дзяржаўнага дзеяча, але і віноўніка ўласнага адраджэння".

Такім чынам, пытанне аб тым, што прынёс Гомелю 1772 год, як быццам, відавочнае: Гомель апынуўся ў цэнтры еўрапейскай часткі велізарнай краіны, на перакрыжаванні важных транспартных – водных, потым – шашэйных, чыгуначных шляхоў зносін і пачаў расці як прамысловы (з сярэдзіны XIX стагоддзя), культурны цэнтр. Уваходжанне ў склад Расіі абумовіла росквіт горада. У процілеглым выпадку Гомель, відаць, падзяліў бы лёс тых пасяленняў, пра якія добра сказаў С. Сакалоў, аўтар аднаго з артыкулаў у газеце "Могилёвские губернские ведомости" за 1851 год: "Много в здешней губернии древних городов и местечек, некогда полных жизни, пользовавшихся известностью в политическом и торговом отношении, но они давно уже пережили свою славу, одряхлели и теперь стоят, как голые остовы, грустные памятники давно минувших времён..."

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

**Заканчэнне.
Пачатак у № 19.**

## МАЦІ-БЕЛАРУСЬ КЛІЧА СВАІХ СЫНОЎ НА СХОД

Падрыхтоўчаму працэсу да Першага з'езда беларусаў свету была прысвечана чарговая прэс-канферэнцыя аргкамітэта і рабочай групы пры ўправе ЗБС "Бацькаўшчына", якая прайшла 11 мая ў Мінскім Доме літаратара.

-- Стаўшыся вольнай, маці-Беларусь кліча сваіх сыноў на радзіму на сход, -- сказала, адкрываючы прэс-канферэнцыю, старшыня рабочай групы Ганна Сурмач. Яна давяла да ведама прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі некаторыя агульныя накірункі праграмы з'езда.

Як ужо мы паведамлялі нашым чытачам, 5--7 ліпеня пройдуць перадз'ездаўскія акцыі: Нарачанскі форум моладзі, Купалле на радзіме Я.Коласа, свята на Навагрудчыне.

З 8 па 10 ліпеня ў Вялікім тэатры оперы і балета будзе працаваць Першы з'езд беларусаў свету. Плануецца заслухаць некалькі дакладаў. Задумана правесці чатыры тэматычныя "круглыя сталы".

Кіраўнік сектара фарміравання прадстаўніцтва Л.Казыра паведаміў журналістам, што беларусам далёкага і блізкага замежжа як індывідуальным асобам, так і асяродкам ужо накіраваны запрашэнні. Пацверджанне на ўдзел атрымана са многіх куткоў свету. Толькі з ЗША чакаецца прыезд 240 асобаў. Калектыўных адмоваў не было, ёсць некаторыя персанальныя, усе -- па прычынах хваробы.

Апрача людзей беларускага паходжання, запрашэнні атрымаюць і іншаземцы -- беларусазнаўцы іншых нацыянальнасцей. Дэлегатамі ад шматлікіх партый, рухаў, дзяржаўных устаноў будзе прадстаўлена на гэтым усебеларускім святе і сама рэспубліка.

Фінансаванне з'езда, паводле тлумачэння У.Савянка, ажыццяўляецца на базе спонсарства грамадскіх і камерцыйных арганізацый. Пералічаны грашовыя ахвяраванні з Сургута (10 мільёнаў рублёў), Львова (1,5 мільёна), Рыгі (600 тысяч) і г.д.

Удзел і падтрымка дзяржаўных інстытуцый заключаецца сярод іншага ў дапамозе пры вырашэнні праблем, звязаных з візамі, з выдавецкай дзейнасцю. На гэтым апошнім моманце і засяродзіўся міністр інфармацыі Беларусі А.Бутэвіч. Гэта і выданне кніг, прысвечаных замежным суайчыннікам, і стварэнне магчымасцей для суродзічаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны, карыстацца нашымі газетамі і часопісамі. А таксама адкрыццё беларускіх кнігарняў у розных мясцінах СНД.

Кіраўнік сектара па правядзенню Нарачанскага форуму Л.Хрышчановіч заклікала дэлегатаў ад замежжа накіроўваць сваіх дзяцей на гэтую сапраўдную фіесту беларускай моладзі свету.

Старшыня Рады Згуртавання Я.Лецка падкрэсліў неабходнасць падсумаваць на ліпеньскім з'ездзе ходу выканання рашэнняў Першага сходу беларусаў блізкага замежжа.

З заявай ад імя Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) выступіў У.Савянок. У ёй асуджаецца факт беспадстаўнага звальнення з беларускага войска старшыні БЗВ М.Статкевіча і праследаванні іншых сяброў згуртавання.

**С АКОЎКА.**

# БЕЛАРУСЫ АРГЕНЦІНЫ



**ГІСТОРЫКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ПАРТРЭТ НАШАГА СУАЙЧЫННІКА З БЕРАГОЎ РЫО-ДЭ-ЛА-ПЛАТЫ**

Толькі ў 1945--1947 гадах выпрацоўваецца прававая аснова рэпатрыяцыі, выходзяць Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, згодна з якімі беларусы і ўкраінцы з былой Польшчы, літоўцы з даваеннай Літвы атрымоўваюць права на савецкае грамадзянства. А здзейсняць гэта права ў сярэдзіне 50-х. Тады з краіны срэбра ў краіну сацыялізму, па недакладных звестках, пераехалі 15 тысяч чалавек. (І многія з іх, з кім я гутарыў, аб гэтым і цяпер не шкадуюць...). Аднак і праз дзесяць гадоў, у 1969-м, на консульскім уліку ў Аргенціне значылася 44,5 тысячы савецкіх грамадзян, а ў 1986-м -- 20 тысяч.

Важнае месца ў рэпатрыянцкім руху займаў "Беларускі ачаг" -- арганізацыя, заснаваная ў 1948 годзе ў якасці таварыства ўзаемадапамогі на падмурках Славянскага Саюза. Яна сабрала пад сваім дахам каля 15--18 тысяч беларусаў і ўкраінцаў, пераважна грамадзян СССР, тры клубы (імя М. Горкага, М. Астроўскага, В. Бялінскага) і філіі ў гарадах Расарыю, Кордава, Берыса і інш.

Чуў я ад аргенцінскіх суайчыннікаў як працоўных, так і ваенна-палітычных трэцяй хвалі (пра іх наш расказ наперадзе), што побач са "свядомымі" рээмігрантамі, хто ўсёй душой рваўся ў родныя палесціны, ехалі і "несвядомыя", папярэдне падрыхтаваныя да ролі "пералётных птушак". Можа яно так і было, ды я не думаю, што іменна яны справакавалі і былі асноўнымі рухавікамі паўторнай эміграцыі рэпатрыянтаў з Беларусі ў Аргенціну. Хоць, бясспрэчна, грымелі на ўсю зямную ваколіцу гарматы "халоднай вайны". І на франтах ідэалагічнай барацьбы дзве ваюючыя суперпатэнцыі актыўна выкарыстоўвалі як "ударныя" батальёны беларускую эміграцыю, падзеленую на "сваіх" і "чужых". Ды праўдзівей будзе выглядаць тая выснова, што надта балючым быў кантраст паміж узроўнем жыцця, эканамічнага і культурнага стану Аргенціны і СССР. Надта ўзаемавыключальнымі -- жыццёвыя стандарты. Чарвяком сумліву тачыў рэпатрыянтаў і падбухторваў да пераезду ўспамін-параўнанне пра срэбраную краіну 45--50-х гадоў. Па тых часах былы парабак іспанскім грандам хадзіў па Буэнас-Айрэсу. А затым і па Мінску. Рыпаў жоўтай скурай ніколі не бачаных у беларускай вёсцы чаравікаў. Не ўмеючы ні чытаць, ні пісаць, насіў самапіску з каштоўнага металу ў верхняй кішэньцы бастонавага касцюма і залаты гадзіннік на руцэ. І, не разумеючы містыку лічбаў на цыферблаце, на пытанне такога ж, як ён, сябра: "Колькі гадзін?" адказваў: "На, паглядзі сам, каб не сказаў, што лгу"...

**Працяг. Пачатак у №№ 15-19.**

А ягоны брат, пасучы калгасных кароў на выгане ля Нёмана без выхадных і водпускаў, валачыў у кішэні трафейны будзільнік. І прыносіў жонцы палучку за год: банку алею, мех жыта на "працадні" і грашыма ... пятнаццаць рублёў.

Недастаткова вытлумачыць стаўленне аргенцінскай дзяржавы да беларускіх імігрантаў адно традыцыйнай ліберальнасцю законаў. На тыя стасункі паўплывалі, агульным і схематычным складам кажучы, яшчэ два моманты: узаемаадносіны Аргенціны і СССР і месца краіны гаўча на міжнароднай арэне.

Аргенціна разарвала дыпламатычныя сувязі з Савецкай Расіяй у 1917 годзе. І ў многіх пытаннях, уключаючы і тыя, якія датычыліся беларускіх мігрантаў-працаўнікоў, прызнавала і прымала паслугі царскага дыпламатычнага і царкоўнага прадстаўніцтва, якія засталіся пасля рэвалюцыі ў Буэнас-Айрэсе. Але камерцыйныя зносіны аднавіла першай у Паўднёвай Амерыцы ў 1921 годзе.

У 1939--1945 гадах краіна гаўча раздзяляецца (ізноў жа высілкамі іміграцкіх абшчын) на германафілаў і прыхільнікаў альянтаў. Дзякуючы нямецкім імігрантам, Аргенціна запраўляла палівам субмарыны са свастыкай. І аб'явіла Германіі вайну... 27 сакавіка 1945 года. Германская разведка эфектыўна вербавала шпіёнаў, "агентаў уплыву" на ўсіх прыступках дзяржаўнай іерархічнай лесвіцы краіны срэбра. (Напрыклад, консул Аргенціны ў ЗША Альберта Гельмут быў тайным супрацоўнікам РСХА, сакрэтнай службы Гімлера).

Не толькі палітычныя смерчы раскурчвалі аргенцінскае грамадства, эміграцкую збор-дружыну. Там ішла і "гарачая" вайна, часамі амаль што адкрытае супрацьборства. Загінуў ад кулі, расклейваючы лістоўкі з заклікам асудзіць вайну, Аляксандр Навумчык. На сталічных вуліцах стрыжаныя пад "гітлерюгенд" юнакі гразіліся перавешаць "рускіх" імігрантаў пасля трыумфу "бліц-крыга", дзеля чаго рыхтаваліся "чорныя" спісы. Не бяруся выдаваць за дакумент ці даказаны факт і не ведаю, што вадзіла пяром аднаго аргенцінскага суайчынніка (прозвішча неразборлівае), калі ён адпраўляў ліст на радзіму. У ім расказваў, што, выпадкова трапіўшы ў нямецкае пасяленне ў Бразіліі, прыняты за "свайго", бачыў, што там будаваліся крэматорыі для знішчэння "лацінаамерыканскіх" славян. (Нямецкія абшчыны-пасяленні закрытага тыпу надзейна і, відаць, назаўжды схавалі і былых лідэраў Германіі, і іхнія сакрэты. Усё ж аднаго з іх, оберштурмбанфюрэра СС Эйхмана, адказнага ў рэйху за "канчатковае вырашэнне яўрэйскага пытання", разведка Ізраіля вымантачыць з Буэнас-Айрэса. Пасля суда ён будзе расстраляны ў 1962 годзе).

І ў той жа час Аргенціна наладзіла бесперапынны гандлёвы канвеер з краінамі Другога фронта, нажываючы велізарныя дывідэнды.

ЗША, незадаволеныя такім нейтралітэтам краіны срэбра, ажыццяўлялі дэмаршы націску, пагражаючы эканамічнай блакадай. Сталін працівіўся ўваходжанню Аргенціны ў Лігу нацый і выгаворваў Ф. Рузвельту, што, калі б краіна знаходзілася ў яго "жыццёвай прасторы", ён знайшоў бы спосаб угаманіць яе. Брытанскі леў закрываў на ўсё вочы, валодаючы мільённымі капіталаўкладаннямі ў аргенцінскую эканоміку і ў той жа гандаль на два бакі... Аднойчы адзін з маіх суразмоўцаў, аргенцінскіх інтэлігентаў, нечакана для сябе выпусціў з вуснаў, напалову панізіўшы голас: "У нашай гісторыі не менш "белых плям", чым у вашай. Пад імі -- замежны капітал... Нашай гісторыі таксама патрэбна "перабудова".

І тут у 1946-м прэзідэнтам краіны становіцца генерал Перон, фігура магутная і неадназначная. Прадстаўнік "нацыянальнай" буржуазіі, ён праводзіць рэформы на яе карысць, стымулюе развіццё мясцовай аргенцінскай прамысловасці пад сцягам антыімперыялістычнай барацьбы.

Іменна ён узнаўляе ў 1946-м дыпламатычныя адносіны з СССР. Генерал выношвае планы ператварэння Аргенціны ў трэцюю сілу ў свеце, наважыўшыся пацясніць "пад сонцам" СССР і ЗША. Гэта быў ужо "перабор"... У 1955 годзе аргенцінскі "каудыльё" (правадыр) прайграе выбары і будзе высланы з краіны. Вернецца ў 1973-м, зойме крэсла прэзідэнта. Але хутка памрэ, пакінуўшы пасаду маладой жонцы, былой сваёй сакратарцы.

**ШТРЫХІ... Падобным да аргенцінскага гістарычнага этапа ідуць і беларусы ў суседніх краінах.**

**Першую хвалю беларусаў у Парагваі пакуль што не ўдалося адшукаць. У другую (1922--1939), як сведчаць польскія статыстычныя крыніцы, у гэтую краіну выехалі 5 тысяч беларусаў і ўкраінцаў. Селяцца нашы землякі ў калоніях "Дамінга Бада", "Фрам" і інш. Зразумела, і ў сталіцы, горадзе Асунсьёне. З 1941 года працуе таварыства "Славянін", кіраўніцтва якога складаецца з беларусаў Д. Яфрэмава, І. Берднікa, І. Зяленкі. Яно аб'ядноўвае 1 000 чалавек і 8 правінцыяльных філій. У таварыства была і свая рэзідэнцыя, і камісіі, і ... футбольная каманда.**

**Амаль кожную суботу ў адной з калоній ставіліся беларускія спектаклі, канцэрты. Цікава, што членам таварыства нейкі час быў генерал і царскай, і парагвайскай арміі Іван Бяляеў. (Белаэміграцкая калонія з яе казацкімі фарміраваннямі вельмі вялікая па колькасці. І сёння яна займае высокае становішча ў Парагваі). Але можа і па яго загаду ягоны калега палкоўнік... Лепш пачытаем радкі з дзённіка Д. Яфрэмава: "У 1955 годзе перасталі існаваць нашы культурныя клубы ў Парагваі. Бутлераў паразганяў усіх каго куды. Многіх пазабіваў, у каторых адняў здароўе, і хутка паўміралі... А многія паразбягаліся па лясах, таксама і я. У лесе сядзеў амаль два тыдні, пакуль кантрабандным шляхам не перабраўся ў Аргенціну".**

**Цяжка сказаць, колькі, але мала беларусаў жыве сёння ў Парагваі.**

**У Бразіліі ў 30-х існаваў Саюз беларускіх рабочых арганізацый, які быў закрыты ўладамі. Бразільскі афіцыёз ні на хвіліну не выпускаў з поля зроку найменшыя іміграцкія ўтварэнні. Пры першым падазрэнні караў, рэпрэсіраваў. І падаўляў рэпатрыяцыю ўсемагчымымі сродкамі.**

**Ды самай дэмакратычнай і талерантнай да імігрантаў краінай можна лічыць маленькі Уругвай. Беларусы з'явіліся тут у 20-х гадах. У 1937 годзе яны ўтвараюць Беларускае культурна-прасветнае таварыства ў г. Мантэвідэо, якое стане ў 1946 годзе з далучэннем украінскіх, расійскіх і карпата-роскіх арганізацый культурным цэнтрам "М. Горкі". Цэнтр меў філіял у гарадку Сан-Хавіер, заснаваным у 1913 годзе стараверамі з Паволжа, дзе таксама жылі некалькі беларускіх сем'яў. У сярэдзіне 40-х цэнтр, які доўгі час узначальваў выхадзец з Заходняй Беларусі Г. Асіпук, увайшоў у склад аб'яднання "Славянскі Дом". Гэтая арганізацыя дзейнічае і ў наш час.**

*ЧАСТКА III.*

## ПАЎДНЁВЫ КРЫЖ ЭМІГРАНТАЎ

### 1. АБВІНАВАЧАНЫЯ Ў КАЛАБАРАЦЫЯНІЗМЕ

Другая сусветная вайна спарадзіла і закінула ў Аргенціну і апошнюю, самую малую па колькасці, трэцюю хвалю беларускай эміграцыі, якая была ваенна-палітычнай і завяршыла фарміраванне беларускай супольнасці на аргенцінскіх шыротах. Сюды недзе з 1946 года пачынаюць перабірацца з Англіі жаўнеры І-га і ІІ-га карпусоў генерала Андэрса. А таксама "перамешчаныя асобы" з лагераў у Германіі, Італіі і Аўстрыі. І там яны, агулам абвінавачаныя ў супрацоўніцтве з акупантамі, баючыся быць адпраўленымі на радзіму, дзе іх у лепшым выпадку чакала Сібір, у горшым смерць, выдаюць сябе за палякаў.

І на самым краёчку планеты, да якога сем вёрст да нябёс, на сталічнай плошчы дэ Рэтыра перад слыннай гасцініцай для імігрантаў -- першым прыстанішчам для беларусаў на чужыне -- сустрэлася працоўная і палітычная іміграцыя.

Вось як распавядае ў сваёй кнізе пра гэтую сустрэчу адзін з актыўных дзеячаў трэцяй хвалі К. Мерляк: "Сябры Славянскага Саюзу, у тым ліку й беларусы,.. нападалі на новапрыбыўшых, абвінавачваючы іх у здрадніцтве сваёй Радзіме й калябаранстве зь немцамі... Тут пачыналіся контратакі прыезджых, перш слоўныя, а потым фізічныя, якія пераходзілі ў бойкі й працягваліся, пакуль не ўмешвалася паліцыя".

Палітычныя імігранты-перасяленцы ўладкоўваліся працаваць на будоўлях, у тэкстыльнай прамысловасці. Ім нават у Буэнас-Айрэсе зямля пад будаўніцтва жытла выдзялялася бясплатна.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**





BIELORRUSIA Y LOS BIELORRUSOS EN LA REPUBLICA ARGENTINA

**Інфармацыйны бюлетэнь ЗБА; брашура "Беларусь і беларусы ў Рэспубліцы Аргенціна", выдадзеная ЗБА ў 1953 годзе.**

# ЯКІЯ КНІГІ МЫ ВЫДАЕМ

У МІНСКУ ў Доме кнігі праходзіць выстава "Беларуская кніга-92". На ёй прадстаўлена прадукцыя беларускіх выдавецтваў, якіх у нашай краіне налічваецца ўжо 237. Сярод іх -- 10 дзяржаўных выдавецтваў і арганізацый, 14 устаноў, ведамстваў і арганізацый, 109 прадпрыемстваў і арганізацый, выдавецкая дзейнасць для якіх не з'яўляецца асноўнай.

Сярод удзельнікаў выставы выдавецтва "Беларусь", "Мастацкая літаратура", "Беларуская энцыклапедыя", "Навука і тэхніка", "Полымя", "Ураджай", "Юнацтва", "Універсітэцкае". Ёсць там і прадукцыя такіх кампаній і фірм, як "Эрыдан", "Белфакс", "Кавалер ООО", "Стары свет-прынт".

"Мастацкая літаратура" прадстаўляе класікаў беларускай літаратуры. Выдадзены зборнік Янкі Купалы "Спадчына", "Гісторыя беларускае літаратуры" М. Гарэцкага. Выдала "Мастацкая літаратура" і пераклады на беларускую мову твораў славутых пісьменнікаў Шолам-Алейхема, Гётэ, Буніна, Купрына ў серыі "Скарбы сусветнай літаратуры". Хацелася б, каб серыя працягвалася і далей, бо перакладаў замежнай літаратуры на беларускую мову існуе не шмат.

Усе ведаюць, што "Народная асвета" выпускае падручнікі, вучэбныя дапаможнікі. Але ж ці часта мы думаем пра тое, якім павінен быць падручнік? Возьмем для прыкладу 10-е выданне падручніка "Беларуская савецкая літаратура" (аўтар Р.В. Шкраба). Не прэтэндуючы на падрабязны ягоны аналіз і ацэнку, хочацца ўсё ж заўважыць, што ён мала адрозніваецца і знешне, і па зместу ад кнігі, па якой вучыліся 5 гадоў назад. Толькі вокладка ў яго мяккая. А рэпрадукцыі з пасрэдных карцін амаль нельга разгледзець. У артыкуле, прысвечаным перыяду паслякастрычніцкай творчасці Янкі Купалы, чытаем: "...упершыню за ўсю шматвяковую гісторыю працоўны беларус пачаў звацца чалавекам". Знаёма. Праўда, праз некалькі абзацаў сціпла заўважаецца, што Купала не змог прадугледзець, якія беды прынясе калектывізацыя. Ні пра трагедыю унутранага разладу пісьменніка, ні пра спробу самагубства няма ні радка.




Сумнае ўражанне застаецца і ад "Буквара" А. Клышкі. Які б ён ні быў добры па зместу, ён першнаперш здзіўляе сваёй блякласцю, непаўнацэннасцю колеру. Мне здаецца, такое выданне не можа радаваць дзіцячае вока. Не ведаю, куды ідуць грошы, што дзяржава выдзеліла на сваю ж кампанію беларусізацыі, аднак іх не хапае, каб выдаць дастойны падручнік па нацыянальнай літаратуры і "Буквар".

Выдавецтва "Ураджай" прадставіла на выставу кнігі па сельскай гаспадарцы разам са славутай серыяй Ан і Серж Галон пра Анжаліку, "Любовника леди Чаттерли" Д. Лоурэнса. Яно ж выдала "Белорусское народное зодчество" С. Сергачова. Гэта даволі нечакана, таму што выданне кніг па мастацтву не так выгадна, як друкаванне бульварных раманаў ці блізкіх да іх хоць па назве. Сярод кніг, звязаных з мастацкай творчасцю, адзначу "Живопись Полоцкой земли VI--XII в." А. Сяліцкага і "Непаўторныя рысы" А. Хадыка, Ю. Хадыка (кнігі выдавецтва "Навука і тэхніка"). У іх, на жаль, ёсць толькі некалькі каляровых здымкаў на фоне чорнабелых ілюстрацый. Недахоп колеру робіць кнігі шэрымі, нягледзячы на вартасці зместу.

Сярод выдавецтваў, прадукцыя якіх прадстаўлена на выставе, вылучаюцца тыя, што пільна сочаць за густамі людзей і ведаюць, што большасць чытачоў прагне пацяшальнай літаратуры. Выдавецтва "Белфакс" друкуе Д. Чэйза, "Все красотки -- по ранжиру" Ф. Паліні, "Эрыдан" -- зноў Д. Чэйза, серыю пра Анжаліку. На гэтыя кнігі хапае добрай паперы. Хапае здольнасцяў аздобіць супервокладку. Дарэчы, кампанія "Эрыдан" выдала "Библию для детей", вершы Іосіфа Бродскага. "Кавалер-ООО" паказвае на выставе прыгожа афармленую казку братоў Грым "Мальчик-с-пальчик". Ёсць дзіцячыя кнігі і ў "Поліфакта".

Канешне, радуе, што на Беларусі ўзніклі новыя кнігавыдаўцы і няма дзяржаўнай манаполіі на кнігадрукаванне. Радуе, што кнігі з'яўляюцца для ўсіх узроўняў інтэлекту, зацікаўленасці. Шкада толькі, што добрая папера знаходзіцца для бульварных раманаў, а не для падручнікаў. І яшчэ шкада, што ў большасці сваёй кнігі не радуюць вока арыгінальнасцю ні вокладкі, ні шрыфта, ні ілюстрацыі.

Тым не менш чарговы XXXIII рэспубліканскі конкурс "Мастацтва кнігі" прайшоў і вызначыў сваіх лаўрэатаў. Некаторых з іх хочацца назваць. Па-першае, гэта мастацкі альманах "Іканапіс Беларусі XV--XVII стагоддзяў", каляндар "Магнаты Беларусі" (выдавецтва "Беларусь"). Сярод кніг "Мастацкай літаратуры" была адзначана мініяцюрная кніжка Я. Брыля "Прабліскі". Названы лаўрэатамі і некаторыя дзіцячыя кнігі. Здаецца, іх было лёгка вызначыць, бо "Мальчик-с-пальчик" братоў Грым ("Кавалер-ООО"), пераклад на беларускую мову казкі Э. Распэ "Прыгоды барона Мюнхгаўзена" ("Юнацтва"), серыя казак для дзяцей і дарослых ("Поліфакт") былі адзінымі кнігамі для дзятвы, што мелі прыстойны выгляд.

**Наталля КУРАПАТКІНА.**

**НА ЗДЫМКУ: у зале выстаўкі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# АД ЗЯМЛІ, АД ЧОРНАЙ СКІБЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У нас ідзе страшэннае спрашчэнне фальклору, ён існуе ў шлягерным варыянце на радыё, тэлебачанні. Напрыклад, песня "Цячэ вада ў ярок" увогуле не беларуская, у ёй гучаць хутчэй гуцульскія інтанацыі.

– Я ведаю, што Рыгор Шырма некалі надзвычай крытычна ставіўся да выканання "Песнярамі" народных песень у эстраднай манеры, хаця многія гаварылі, што можа ў такой інтэрпрэтацыі народная песня хутчэй дойдзе да народа. А як вы ставіцеся да падобных з'яў?

-- Я двойчы стаўлюся, і Шырма двойчы ставіўся. Ён хваліў іх за выкананне так званай канонічнай песні, напрыклад, "Ой, рана, на Івана". Яе пачыналі ля аднаго вогнішча і падхоплівалі ля другога, так яна і перадавалася -- ад вогнішча да вогнішча, ад прызбы да прызбы, ад сям'і да сям'і. Дзе яны не мянялі рытміку, структуру твора, "Песняры" -- выдатныя хлопцы. А там, дзе перараблялі, як, напрыклад, валачобныя песні, Шырма абураўся. Хваліў і абураўся. "Фальклarystычная дзейнасць Шырмы" -- тэма маёй дысертацыі. Ад двух дзядоў -- Шырмы і Цітовіча маё разуменне народнай песні. І калі не стала іх, працэс уніфікацыі, гвалту над песняй працягваецца яшчэ хутчэй. Узнікаюць усё новыя фальклорныя калектывы. Цуд: здаецца, трэба радавацца, але ва ўмовах дылетантызму і нізкага густу, неразумення мовы арыгіналу, асновы губляецца самабытнасць.

Сёння ўсе шукаюць, у чым жа беларускі нацыянальны характар, менталітэт беларуса. Заўважце, таго, што ў нас свой характар, ніхто не адмаўляе.

-- Падкрэсліваюць пры гэтым, што ён спакойны, памяркоўны.

– Памяркоўнасць – гэта тое, што на паверхні, а ўсё вызначае працавітасць беларуса, тое, што ідзе ад зямлі. Увесь наш фальклор падпарадкаваны земляробчаму цыклу. Традыцыйны беларус – гаспадар, земляроб, ён ніколі не галадаў і галадаць не будзе. Хлебніца-Украіна галадала, а Беларусь -- не!

–Мне вельмі імпануе тэма маючай адбыцца канферэнцыі -- фальклор і з яго дапамогай адраджэнне нацыянальнай свядомасці. Як адраджэнне будзе ажыццяўляцца на практыцы? Якія бліжэйшыя вехі, задачы ставяць перад сабой фальклarysты?

-- Да нас далучыліся Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі. У канферэнцыі прымуць удзел навукоўцы. Дарэчы, сваю Асацыяцыю на канферэнцыі хочам перайменаваць у Саюз фальклarystаў.

-- Фальклarystаў-навукоўцаў ці непасрэдных выканаўцаў?

-- Інтэрпрэтатарамі фальклору доўгі час былі культработнікі, выкарыстоўвалі яго работнікі адукацыі, кніжкі пісалі навукоўцы. У Асацыяцыі нам удалося аб'яднаць усіх. Вы задалі пытанне, як будзем адраджаць фальклор. Дык вось, адраджаць будзем нацыянальную культуру. Свету трэба сцвердзіць, што мы унікальны песенны народ, як гаварылі пра беларусаў у XIX стагоддзі. Тады пісалі, што беларуская жанчына заўсёды спявае: на вячорках, у полі, у хаце, на прызбе. А пачуйце цяпер песню! Песенны народ зрабілі нямым, маўклівым, глухім. А выратуе нас не камунізм, не хрысціянства і не сацыял-дэмакратыя. Адраджэнне адбудзецца праз прыгожы стан душы, праз песню. Шырма некалі гаварыў: я не ўяўляю мужчыну, які б спяваў і мог бы абразіць жанчыну. "Этычнае, эстэтычнае і нацыянальнае ў фальклоры", – пра гэта будзе даклад на пленарным пасяджэнні канферэнцыі Алеся Баршчэўскага, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Або гаворка пойдзе пра лепшыя рысы беларусаў, што апяваюцца ў фальклоры. Будзе даклад аб нацыянальнай самабытнасці беларускай музыкі. У адзенні, музыцы, танцах мы згубілі больш, чым дзе. Песенная культура перадаецца і праз пакаленні. Беларуская мова самая мілагучная з усіх славянскіх моў, пра гэта гаварыў у сваёй лекцыі ў Парыжы Адам Міцкевіч. Мілагучнасць добра кладзецца ў мелодыю. Адсюль і ідзе песеннасць нашага народа.

Выдатна, што ў наша жыццё ўвайшлі народныя святы. Гэта значыць, што народ ажывае, але шкада, што, напрыклад, Вялікдзень не прапагандуецца як сустрэча новага года па сонечным календары, якім быў ён для першабытнага чалавека, а прапагандуецца як Пасха.

– Дык, на вашу думку, мы павінны вярнуцца да паганства?

-- У мастацтве – так. Я не ведаю іншых форм мастацтва, створаных не ў супастаўленні з прыродай, не ў замілаванні ёю. Не існуе мастацтва, якое не адпавядала б гукам прыроды, вобразам яе прыгажосці. Язычніцтва было спробай асэнсаваць прымітыўнымі вобразамі з'явы. І ў гэтым яго агульначалавечая сутнасць. Яно ўздзейнічае натуральнасцю, яно не стварае штучных вобразаў.

-- Раскажыце, калі ласка, пра Асацыяцыю фальклarystаў. Чым яна адрозніваецца ад таго ж Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору? Што вамі ўжо зроблена?

– Інстытут – чыста навуковая арганізацыя. Самая галоўная работа Асацыяцыі перанесена ў фальклорныя калектывы. Мы працуем там, дзе фальклор жыве паўнакроўным жыццём. Мы запісваем песні па вёсках, падглядваем абрады, паказваем іх у сродках масавай інфармацыі. Ёсць і адваротны працэс: бяром з архіваў, з друкаваных крыніц XIX стагоддзя запісы і перадаём у фальклорныя калектывы. Вінегрэту не робім: з Магілёўшчыны не даем запісаў на Гродзеншчыну, а з Берасцейшчыны на Віцебшчыну. Некаторыя, раней існаваўшыя абрады, рэканструюем, нябожчыкаў з магілы падымаем.

-- Запісы, што вы робіце па вёсках, гэта фальклор, які існаваў раней, ці творчасць -- працэс няспынны, і навукоўцы запісваюць новыя песні? Стварэнне фальклору працягваецца?

-- Працягваецца. Хаця фальклор -- мастацтва, павернутае назад. Эстэтыка калектыўная, створаная ў часы адзінства чалавека з прыродай. Што датычыць формаў, то гэта вельмі традыцыйнае мастацтва.

Адной з асноўных мэт нашай Асацыяцыі стала змаганне за стварэнне добрага, сапраўднага закона аб ахове фальклору, які трэба абараняць ад скажэнняў, ад спекуляцыі, ад фальсіфікацыі, ад парадзіравання. Закон аб ахове фальклору ёсць у 40 краінах свету, і ёсць пастанова Камітэта дзяржаўных экспертаў ЮНЕСКА аб стварэнні такіх законаў.

Непасрэдную падрыхтоўку свайго закона мы пачнём пасля згаданай вышэй канферэнцыі. Сваё багацце, сваю культурную спадчыну народ павінен захоўваць на дзяржаўным узроўні, бо калі не зробім гэтага, нашчадкі нам не даруюць. Пакуль што беларусы сцвердзілі свой суверэнітэт фармальна, а яго трэба сцвердзіць на культурным узроўні. Чым большы ўклад народ уносіць у культурную скарбніцу чалавецтва, у дасягненні цывілізацыі, тым больш ён народ, і тым большая яму падзяка, і тым шырэйшае яго прызнанне ў свеце.

**Гутарку вяла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*ВЫЙШЛА Ў ЗША*

# ШТО ПІШУЦЬ ПРА БЕЛАРУСЬ

На пачатку гэтага года ў ЗША выдавецтвам "Лэрнэр" з Мінеапаліса выдадзена навукова-папулярная кніга пра Беларусь. Яна выйшла як адна з шэрагу кніжак, прысвечаных краінам СНД, з мэтай пазнаёміць амерыканцаў з гісторыяй, культурай і сённяшнімі праблемамі новаўтвораных дзяржаў, бо амерыканскі чытач вельмі мала пра іх ведае. Раней, як вядома, культурнае багацце шматлікіх народаў было схавана пад назвай -- "Савецкі Саюз", якога баяліся і пра які ведалі толькі тое, што гэта -- маналітная дзяржава (сінонімам назвы "Савецкі Саюз" было слова "Расія"), якая пагражае свету і якой самой, здаецца, нічога не пагражае.

Зараз, калі СССР больш няма, а наша Радзіма Беларусь зрабілася незалежнай, калі здзейснілася мара народа аб дзяржаўнасці і адраджэнні сваёй мовы і культуры, вельмі прыемна ўсведамляць, што на Захадзе і, ў прыватнасці, ў Злучаных Штатах расце цікавасць да ўсяго беларускага.

Аднак больш канкрэтна пра кнігу. Якасць выдання вылучае яе сярод звычайных кніг нават заходніх стандартаў. Кніга невялікая, усяго 56 старонак, але на іх вельмі сцісла распавядаецца ўсё пра Беларусь (дарэчы, яна так і называецца -- "Беларусь"). Адразу кідаецца ў вочы вельмі прыгожая вокладка з фотаздымкамі, і далей, калі гартаем яе, цудоўнай якасці фотаздымкі беларускай прыроды і нашай рэчаіснасці проста захапляюць. Прыемна думаць, што амерыканскія чытачы, якія ў Беларусі ніколі не бывалі, здолеюць ацаніць нашу цудоўную прыроду, прыгажосць нашых гарадоў і нашага народа.

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў: "Зямля і людзі Беларусі", "Гісторыя Беларусі", "Як жывуць на Беларусі", "Будучыня Беларусі". Разам яны даюць цэласны агляд нашага жыцця.

Аўтары адзначаюць, што хаця савецкі перыяд існавання Беларусі прынёс з сабой індустрыялізацыю рэспублікі і пэўныя сацыяльныя здабыткі, аднак русіфікацыйная палітыка камуністычных уладаў прывяла да супраціўлення ёй з боку шматлікіх этнічных беларусаў.

Пераход да незалежнасці і першыя гады незалежнасці нашай Радзімы, як пішацца ў кнізе, прайшлі, у адрозненне ад іншых рэспублік былога СССР, у атмасферы міру і спакою. Шмат хто з выхадцаў з іншых краін СНД, якія апынуліся тут, пажадалі застацца жыць на Беларусі. Адзначаецца цесная эканамічная сувязь нашай рэспублікі з Расіяй, што, аднак, не перашкаджае ёй наладжваць супрацоўніцтва з Захадам. Кніга заканчваецца словамі, што геаграфічнае становішча Беларусі, якая мяжуе і з Балтыяй, і з Польшчай, і з Украінай, і з Расіяй, дае магчымасць нашай эканоміцы выходзіць на гэтыя перспектыўныя рынкі і развівацца.

Кніга змяшчае таксама невялічкі слоўнік найбольш ужывальных беларускіх слоў з тлумачэннем іх значэння і вымаўлення па-ангельску.

Нешматлікія памылкі (няправільная назва гарадоў на адной з карт, а таксама транслітарацыя геаграфічных назваў з рускай, а не з беларускай мовы на ангельскую) не могуць знізіць каштоўнасць кнігі "Беларусь", выдадзенай у ЗША па-ангельску на такім цудоўным паліграфічным узроўні, што нашым выдавецтвам можна было б яе узяць проста за прыклад.

**Юрась ЖАЛЕЗКА,**
**сябар Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

## АТРЫМАНА ЗАПРАШЭННЕ

У жыцці творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" -- доўгачаканая падзея: атрымана запрашэнне на пошукава-даследчыцкую працу ў сховах Лонданскай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Намеснік міністра культуры Беларусі У. Рылатка ды вядомы беларускі дзеяч на эміграцыі а. Надсон абмяняліся дзелавымі паведамленнямі. У выніку "факс ад Надсона" дае магчымасць дырэктару "Беларускай Капэлы" Я. Паплаўскаму, які ўжо мае плённы вопыт даследчыцкай працы ў нотных сховішчах Пецярбурга, выехаць у камандзіроўку і папрацаваць у музычным аддзеле Скарынаўскай бібліятэкі. За пару тыдняў можна будзе не толькі азнаёміцца з архівамі, напрыклад, М. Шчаглова-Куліковіча, М. Равенскага, але і скапіраваць ладную частку нот. Як вядома, у планах "Беларускай Капэлы" -- правядзенне фестывалю музыкі т.зв. беларускага замежжа.

## "БРАВА, РАХМАНЫ!"

З дзвюх дат, з двух, здавалася б, нязначных эпізодаў біяграфіі генія можна, аказваецца, узрасціць цэлы кветнік пачуццяў -- рамантычных, супярэчлівых... У 1895 годзе малады кампазітар, дырыжор і піяніст С. Рахманінаў выступаў у Мінску разам з італьянскай скрыпачкай Тэрэзінай Туа ў якасці яе акампаніятара. Гастролі пралеглі таксама праз Горадзен, Магілёў, Віцебск. У 1913 годзе С. Рахманінаў зноў выступаў у Мінску -- ужо ў росквіце сваёй музыканцкай славы. Факт знаходжання знанага артыста ў губернскім беларускім гарадку лёг у аснову радыёп'есы Б. Бур'яна "Брава, Рахманы!", пастаноўку якой ажыццявіла рэдакцыя музычнага вяшчання Беларускага радыё. Прыгожая і пераканаўчая версія знаходжання С. Рахманінава ў Мінску -- гэта насычаная цудоўнай музыкай гадзіна радыёэфіру, у якой было і адчуванне атмасферы правінцыйнага старога горада, і артыстычны трыумф, і захапленне паклоннікаў, і складаныя любоўныя стасункі... Прэм'еру, прымеркаваную да сёлетніх юбілейных рахманінаўскіх дат, падрыхтавалі рэжысёр В. Красоўская, выканаўцы галоўных роляў Н. Качаткова (сеньёра Тэрэзіна ды Наталля Саціна, жонка Рахманінава) і А. Падабед (С. Рахманінаў), рэдактар Л. Мітаковіч.

## НОВАЯ БРЭСЦКАЯ УНІЯ

Амаль праз 400 год пасля Брэсцкай уніі 1596 года новае пагадненне -- на гэты раз інтэлектуальнае -- заключылі беларускія і польскія навукоўцы, якія сабраліся ў горадзе над Бугам на навуковую канферэнцыю. Яе тэмай былі беларуска-польскія ўзаемадачыненні ў грамадска-палітычнай, адукацыйнай і культурнай сферах. З дакладамі і паведамленнямі выступілі каля 50 вучоных з Варшавы і Беластока, Торуня і Ольштына, Мінска і Брэста, Гомеля і Гродна. А на "круглым стале" абмяркоўваліся перспектывы беларуска-польскіх адносін.

Арганізавалі канферэнцыю Брэсцкі педінстытут імя А.Пушкіна, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны і Фонд імя А.Фрыча Маджэўскага (Варшава). Аналагічныя форумы вырашана праводзіць штогодна.

Удзельнікі канферэнцыі паслалі тэлеграму ўдзельнікам святкавання 50-годдзя паўстання ў Варшаўскім гета.

## У ВАТЫКАНСКІХ АРХІВАХ

З трохмесячнай стажыроўкі ў Рыме вярнуўся сябра МАБ старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны Алесь Жлутка. У ватыканскім архіве ён знайшоў каля 50 лацінскіх дакументаў XIII--XIV стагоддзяў, звязаных з Беларуссю, у тым ліку з каранацыяй у Наваградку вялікага Літоўскага князя Міндоўга і першымі каталіцкімі кафедрамі ў Полацкім княстве.

А.Жлутка прывёз таксама ксеракопію невядомага раней у Беларусі твора Сымона Буднага, выдадзенага ў Італіі.

## ВЫСАКАРОДНЫ ЎЧЫНАК

На імя Міжнароднага камітэта беларусістаў прыйшло некалькі пасылак з ЗША, а ў іх -- беларуска-рускі слоўнік вядомага мовазнаўцы Янкі Станкевіча, выдадзены за акіянам. Прыслаў яго для распаўсюджання сын вучонага Юры Станкевіч. Асноўная частка выручаных грошай пайшла (праз Беларускі дзіцячы фонд і нядаўна створаны сп. Марыяй Міцкевіч, унучкай Якуба Коласа, фонд "Сакавік") беларускім дзецям, якія сталі ахвярамі Чарнобыля.

**Алеся БЕЛАВУСАВА,**
**рэферэнт МАБ.**

## З ВЫСТАВЫ МАЙСТРОЎ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ





**У канцы красавіка на старонках "Голасу Радзімы" быў змешчаны артыкул старшыні Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі Яўгена Сахуты аб першых кроках маладога аб'яднання. Разам лягчэй агораць складанасці незнаёмага і нязвыклага "рыначнага жыцця", у перапляценні і калдобіны якога трапляюць і творцы, людзі часцей за ўсё далёкія ад камерцыі і гандлёвых адносін. У саюза мноства нявырашаных праблем: няма пастаяннага памяшкання для выстаў, няма майстэрань, цяжкасці з матэрыяламі, да таго ж і прадаюцца сапраўды бясцэнныя вырабы часам за бясцэнак, не прадстаўленыя найлепшым чынам, скупляюцца людзьмі, некампетэнтнымі ў мастацтве, але добрымі знаўцамі таго, на чым можна зарабіць, перапрадаўшы сувеніры з натуральных матэрыялаў за мяжу. Але ж саюз прыняты ў Канфедэрацыю творчых саюзаў рэспублікі і жыве, дзейнічае. Спачатку прайшла выстава на "Белай дачы", а на Вялікдзень у мінскім Доме ветэрана адбылася прэзентацыя саюза, адкрылася выстава майстроў народнай творчасці, адбыліся выступленні народных музычных, харавых, танцавальных калектываў.**

**Майстры масцітыя і пачынаючыя прадставілі на агляд свае лепшыя творы -- работы традыцыйныя і наватарскія. Вырабы з саломкі Т.Агафоненка і Л. Главацкай даўно ўжо можна сустрэць у любой краіне свету, бо іх ахвотна купляюць і замежныя турысты, і беларусы-землякі, што жывуць у чужых краінах,таму што яны нагадваюць ім дзяцінства і роднае жытнёвае поле.**

**Выступаючы на прэзентацыі саюза, народны майстар Ю. Адамовіч сказаў, што, мусіць, не выпадкова гэта падзея супала з Вялікаднем. Мнагалюдна ў гэты дзень было каля храмаў, мнагалюдна і на выставе. Чалавек не можа жыць без веры, без прыгажосці, без сапраўдных дахоўных каштоўнасцей, якія напаўняюць яго існаванне сэнсам, дапамагаюць перанесці нягоды і цяжкасці, прыносяць збавенне ад сумных думак пра хлеб надзённы.**

**Саюз -- небагатая арганізацыя, і многія цяжкасці яго звязаны менавіта з адсутнасцю сродкаў. Дзяржава мала чым можа яму дапамагчы. Тым большае шкадаванне выклікае адсутнасць салідных спонсараў, якія маглі б не толькі аказаць дапамогу майстрам, але ўклалі б грошы ў сапраўды вартасную справу, бо народнае мастацтва вечнае і попыт на яго будзе заўсёды.**

**Д. ЧАРАПОВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**11 мая, аўторак**

*СТАРАЖЫТНЫЯ РАМЁСТВЫ БЕЛАРУСІ*

### СОНЕЧНЫЯ ПЛІТКІ

Калі давядзецца пабываць у Маскве, на блізкай ад цэнтра вуліцы Вялікая Палянка, абавязкова звярніце ўвагу на старую мураваную царкву, аздобленую суцэльным поясам з рознакаляровай кафлі. Гэты незвычайны кафляны дыван -- работа беларускіх майстроў.

З'явіўшыся ў XIII стагоддзі ў краінах Заходняй Еўропы, кафля як канструктыўны элемент печаў ужо ў XIV стагоддзі была шырока распаўсюджана і на тэрыторыі Беларусі. Спачатку яна мела цыліндрычную ці канічную форму і выраблялася на ганчарным крузе, але неўзабаве вынайшлі каробчатую кафлю з плоскай паверхняй, на якой зручна было адціскаць розныя выявы. Якраз такая кафля і прынесла славу беларускім майстрам.

З XVI стагоддзя кафля ў вялікай колькасці вырабляецца ў многіх беларускіх гарадах: Мінску, Магілёве, Гродне, Пінску, Віцебску, Заслаўі, Лагойску, Быхаве, Полацку, Мсціславе і інш. Кафлярства становіцца адным з вядучых рамёстваў. Печы "образцов малеваных" зіхацелі разнастайнымі малюнкамі геаметрычнага, расліннага, заамарфнага, геральдычнага, міфалагічнага характару, яркімі сакавітымі фарбамі рознакаляровай палівы, нагадваючы дзівосны дыван.

Беларускія майстры-кафляры ўпісалі яркую старонку і ў гісторыю рускага мастацтва. У сярэдзіне XVII стагоддзя ў выніку руска-польскай вайны шмат беларусаў апынулася ў Маскоўскай дзяржаве. Там на той час выраблялі толькі аднатонную зялёную ("мураўлёную") кафлю. Беларускія майстры прынеслі традыцыю вытворчасці паліхромнай кафлі, якой аздаблялі не толькі печы, але і сцены манументальных збудаванняў, выкладвалі ёю карнізы, балконы, парталы, іканастасы. Да нашых дзён у Маскве і яе ваколіцах захаваліся такія пабудовы, знутры і звонку аздобленыя сакавітым паліхромным дываном з рознакаляровых гліняных плітак. За сотні гадоў фарбы не пабляклі, не выцвілі і сёння ярка пераліваюцца ў сонечных промнях, здзіўляюць нас высокім майстэрствам.

**Яўген САХУТА.**

**18 мая, аўторак**

### БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ВІЛЬНІ

З 1921 года і да канца другой сусветнай вайны ў Вільні, тагачасным культурным цэнтры Заходняй Беларусі, існаваў Беларускі музей, ці, афіцыйна, Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя І. Луцкевіча. Ён быў заснаваны на базе калекцыі выдатнага грамадскага дзеяча, аднаго з пачынальнікаў беларускага адраджэнскага руху пачатку стагоддзя, аднаго з заснавальнікаў першых беларускіх легальных газет "Наша доля" і "Наша ніва" -- Івана Луцкевіча. Размяшчаўся музей у старой частцы горада, у Базыльянскіх мурах, побач са слыннай беларускай гімназіяй. На працягу свайго існавання калекцыі музея істотна папаўняліся.

З археалагічных знаходак тут былі рэчы каменнага веку, каменныя сякеры, пасудзіны з курганоў, пярсцёнкі з пячаткамі полацкіх князёў Усяслава і Барыса, аднаго са смаленскіх князёў XIV стагоддзя, пячатка Міндоўга, іншыя матэрыялы з раскопак на Беларусі. У музеі была таксама значная калекцыя манет, старых медных крыжоў (ад XI стагоддзя), сярод іх амулет -- "змеявік". Аддзел старадаўняй зброі быў прадстаўлены панцырам ваяра, часткай панцыра на каня, кальчугамі, крыжацкім мячом, узбраеннем беларускіх сялян, іншымі ўзорамі халоднай і агнястрэльнай зброі. У сфрагістычнай калекцыі налічвалася 103 пячаткі розных часоў. Сярод калекцыі кніг і грамат былі такія каштоўныя экспанаты, як Навагрудскае Евангелле XIV стагоддзя, рукапісныя кнігі XVI стагоддзя, Аль-Кітаб, цэлы шэраг грамат вялікіх князёў літоўскіх, каралёў Рэчы Паспалітай, свецкіх і царкоўных феадалаў, рэдкія старадрукі -- Трыёдзь каляровая 1491 года Ш. Фіёля, частка пражскага выдання Бібліі Ф. Скарыны, Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года з друкарні Мамонічаў, "Часаслоў" Івана Фёдарава, трэбнік Жыровіцкай царквы 1545 года, кнігі XVI--XVIII стагоддзяў з друкарняў у Куцейне, Еўі, Вільні, Супраслі, Лоску, Сямяцічах, Нясвіжы, Слуцку, Полацку, Гродне, Магілёве. Захоўваліся беларускія выданні XIX стагоддзя, камплекты "Нашай долі" і "Нашай нівы".

У аддзеле беларускага народнага мастацтва была прадстаўлена разьба па дрэву, лубкі, карціны Ф. Смуглевіча, Яна Рустэма, І. Трутнева, Шаламіцкага, Ю. Пешкі, А. Лосенкі, В. Сляндзінскага, К. Брулова, П. Сергіевіча, Я. Драздовіча і інш., народныя музычныя інструменты, гравюры, старадаўняе адзенне, калекцыя слуцкіх паясоў. У аддзеле начыння захоўваўся віленскі фаянс, урэцкае шкло, галаснікі Каложскай царквы ў Гродне, іншыя ўзоры старадаўняга і сучаснага посуду. Меўся сцяг паўстанцаў Лідскага павета (1863 год). У бібліятэцы музея налічвалася больш за 14 тысяч тамоў. Пры музеі існаваў багаты беларускі архіў.

Беларускі музей у Вільні як адзінае цэлае быў ліквідаваны ў чэрвені 1945 года, калекцыі падзелены паміж шэрагам музеяў, архіваў і бібліятэк.

**Эдвард ЗАЙКОЎСКІ.**



Унікальным музычным інструментам, што дастаўся ад дзеда і прадзеда, валодае А. ГУБКО (на здымку) з вёскі Хатаевічы Дзятлаўскага раёна. Называе яго Аляксандр Казіміравіч проста -- канёк. Вылеплены з гліны, ён змяшчаецца на далоні і сапраўды нагадвае канька, а па гуку падобны на жалейку. Мелодыі ж, што выконваюцца на каньку, чутны за два кіламетры.

**Фота Э. КАБЯКА.**

## АДЛЮСТРАВАННЕ ГІСТОРЫІ

Многія ўстановы і арганізацыі нашай рэспублікі даўно карыстаюцца франкіравальнымі машынкамі, што механічна наносяць на канверт пісьма знак, які замяняе паштовую марку, а таксама каляндарны штэмпель. Тут жа маецца адрас адпраўніцеля. Гэтымі механічнымі штэмпелямі (а іх называюць франкатыпамі) у свеце ўжо карыстаюцца 90 гадоў. Упершыню такую машынку выкарысталі ў 1903 годзе ў Нарвегіі. З таго часу механічныя штэмпелі і сталі прадметам калекцыяніравання, як і звычайныя паштовыя штэмпелі. Гісторыя прымянення франкіравальных машынак у Беларусі яшчэ не напісана.

Філатэлістам рэспублікі практычна невядомы даваенныя механічныя беларускія штэмпелі, а гэта ж цэлы раздзел філатэліі. На жаль, калекцыяніраванне механічных штэмпеляў у нас у рэспубліцы не вельмі папулярнае. А гэтыя штэмпелі адлюстроўвалі і адлюстроўваюць гісторыю нашай рэспублікі, у малюнках і тэкстах штэмпеляў бачны тыя перамены, якія сёння адбываюцца ў Беларусі. Ужо даўно ў паштовым абарачэнні маркі і канверты, выдадзеныя поштай РБ, якія нясуць на сабе сімвалы незалежнасці, і толькі штодзённыя каляндарныя штэмпелі і франкатыпы да апошняга часу не мяняліся: на іх усё яшчэ застаюцца сімвалы былога СССР -- пяціканцовая зорка з сярпом і молатам, надпіс "Пошта СССР". Але час бярэ сваё, і пастунова на штэмпелях франкіравальных машынак сімвалы і надпісы мяняюцца. Ранейшымі застаюцца толькі адрасы ўладальнікаў гэтых машынак са старымі назвамі арганізацый і вуліц -- "Ленинский проспект", "АН БССР", "Штаб Краснознаменного Белорусского военного округа", "им. Ленина" і г.д. Замяніць у кожнай машынцы індывідуальны адрас пакуль няма магчымасці: на гэта патрабуюцца і час, і грошы. Але прыйдзе час, і старыя назвы саступяць месца новым.

Сёння ж пошта мяняе ў гэтых машынках агульныя, стандартныя часткі, а гэта каляндарны штэмпель і знак, у якім праstaўляецца цана паштовага адпраўлення. Пакуль філатэлісты выявілі тры віды новых каляндарных штэмпеляў: з надпісам "Беларусь. Пошта. Мінск", з такім жа надпісам, але з прысутнасцю слова "Минск" на рускай мове і трэці від каляндарнага штэмпеля -- гэта стары ўзор без сімвалаў -- пяціканцовай зоркі з сярпом і молатам і надпісу "СССР". Ва ўсіх механічных штэмпелях зменены знак, які выкарыстоўваецца замест маркі. Няма больш у гэтым знаку слоў "Пошта СССР" і пяціканцовай зоркі. Цяпер прысутнічае надпіс "Пошта" і назва рэспублікі "Беларусь". Назва дадзена таксама лацінскімі літарамі. Паступова будуць мяняцца механічныя штэмпелі і ў іншых гарадах рэспублікі. А затым надыдзе чарга каляндарных штэмпеляў ва ўсіх паштовых аддзяленнях Беларусі.

Новыя паштовыя штэмпелі з сімваламі незалежнасці зоймуць дастойнае месца ў калекцыях беларускіх філатэлістаў.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## СПОРТ

ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА. Першынство Еўропы, якое прайшло ў Турцыі, аспрэчвалі зборныя трыццаці трох краін. Асобнай камандай упершыню ў такіх спаборніцтвах удзельнічала і каманда Рэспублікі Беларусь. Нашы барцы занялі пятае месца. У асабістым заліку "золата" ў Сяргея Дземяшкевіча і "бронза" ў Камандора Маджыдава.

ГАНДБОЛ. Пачала падрыхтоўку да чэмпіянату свету жаночая зборная Беларусі, якая заваявала права выступаць у фінале. Нашы спартсменкі нядаўна правялі дзве таварыскія сустрэчы са зборнай Літвы і перамаглі -- 35:26, 32:23. А маладзёжны склад зборнай Беларусі ўступіў сапернікам з лікам 24:25.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Міжнародны турнір сяміборак прайшоў у Іспаніі. Ён завяршыўся поўнай перамогай беларускіх дзяўчат як у камандным, так і ў асабістым заліку.

У турніры дзесяціборцаў другое месца заняў Ігар Мазанаў з Брэста.

ВАЛЕЙБОЛ. Два адборачныя матчы да чэмпіянату Еўропы правяла жаночая каманда Беларусі са зборнай Турцыі. Саперніцы выйгралі па адной сустрэчы. Наша каманда лідзіруе ў сваёй групе, набраўшы тры ачкі.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**АЛЕКСІЕВІЧ Ігар Аляксеевіч** шукае сваяка **Івана АЛЕКСІЕВІЧА** 1908 года нараджэння, а таксама яго сыноў і дачок, якія пражываюць у Канадзе.

Калі каму-небудзь што вядома пра сям'ю **Івана Алексіевіча**, то просім паведаміць по адрасу:

**222010, Рэспубліка Беларусь,**
**Мінская вобласць,**
**Г. Крупкі,**
**вул. Ленінская, 83.**
**АЛЕКСІЕВІЧУ Ігару Аляксеевічу.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма".



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 712. Падпісана да друку 17.05.1993.